# ВЕДА - VEDA

Навукова-Літаратурны месячнік

Выдаець Крывіцкае (Беларускае) Навуковае Таварыства Пранціша Скарыны



Kryvian (Whiteruthenian) Scientific and Literary Monthly
Published by Francis Skoryna Kryvian (Whiteruthenian) Society of Arts and Sciences in the U. S., Inc.

Address: 6 Vandervoort Place, Brooklyn 37, New York, U. S. A.

Год III. Цана 15 ц. № 3 (20), 1953 Vol. III.


## СЬВ. † ПАМЯЦІ МІКОЛА РАВЕНСКІ



9-га сакавіка сёлета на эміґрацыі, у Лювэне (Бэльґія), у выніку цяжкога а безнадзейнага няўздоляньня на рак лімфатычнае сыстэ-

мы памер найвыдатнейшы наш кампазытар, выдатны музыка, музычны дасьледнік і крытык, заслужаны дырыґент і пэдаґоґ, шчыры, адданы, ахвярны, няўпынёны а сьціплы працаўнік ды высака ідэйны Крывіч, сябра Крывіцкага Навуковага Таварыства Пранціша Скарыны **МІКОЛА РАВЕНСКІ** (народжаны 17 — старым стылям 5 сьнежня 1886 г. ў Засульлі на Ігуманьшчыне).

Вянком на магілу свайго векапомнага сябры нашае Таварыства выдаець пры „Ведзе" хоць невялікі зборнік ягоных песьняў. Тамжа будзе зьмешчаны і нэкралёґ з аглядам жыцьцёвае й творчае дарогі нябожчыкавае. Цяпер-жа — няхай лягкой Табе будзе зямелька, хоць і на чужыне, дарагі дрыжоны Сябру!

**Я. Юхнавец**

## МУЗЫКАЎ СКРОС.

Памяці Міколы Равенскага.

Неба тады цяжарам хмараў
зь зямлёй не раўналася.
І ночы
шарахлівым шумам
дажджын барзьлівасьць
ня лічыў наш дах.
Бо ясьвом
узбожныя прасконкі у пачуцьцях споўненых
зналуску
тайніцаў ашчадных знадзіла наўда.
Яны пазналі вусьціш сьпеўную.
Яна-ж, кранутая
водгуляй душы, бы вадаспад у горах,
праліла ў радасьцях і вясёлках грайкіх
горнасьць...

— Прыймі, Сястра! Далёкая у нетрах Ты!
І блізкая, блізкая ў снох і ў сэрцы!
Я ў Тваіх пяю барох, і ветразям
не даю спакою на ціхіх азерцах.

— Пяі зы мной, Далёкая!
І калі вітаю жнеяў, і хвалюся ліху
пра шчасьце дзён русалак,
у нячутным шуме лісьцін апалых
спадзеў прыходзіць
паціху:
сьпеўная мальба ў ім змоўкае.

— Прыймі, Сястра, і гэта!
У гусьлях адгучэлых —
Жыцьцё Тваё,
што веціў я у маладой адвечна песьні.
Жыві, Сястра! І целам
Табе мой дух адказаны —
ускрэсьне!

## ІЗ ЗБОРКІ ПАЗНАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ

1. Ё група словаў, которыя ў мове расійскай маюць склады -ро-, -ре-, -ло-, -ле-, -ве-, а ў беларускай — -ры-, -лы-, -лі-, -ві-. У мове польскай у такіх словах па **р, л** ня бывае самагуку. Прыклады: рас.: кровавый, тревога, мудреца, слеза, плевать, звенеть; блр.: крывавы, трывога, мудрыца, сьліза, пліваць, зьвінець; пол.: крвавы, трвоґа, мендрца, лза, пльваць.

У мове беларускай складом -ры-, -лы-, -лі-, -ві- часта адказуюць склады -ро-, -ло-, -ле-, -ве- ў іншых хормах тага-ж слова, альбо ў тым самым складзе другога аднакарэннага слова. Гэтак ё „кроў”, але „крывавы”, „брыво”, але „бровы”, „дровы”, але „дрыўмі”, „дрывотнік”, блыха, але блохі, **„сьліза,** сьлізы іг. д. у вадз. ліку, але сьлёзы, сьлёзаў і г. д. у ліку множным; „чырвень”, але „чырвіня, чырвіню” і г. д. У назоўным склоне адз. л. ё мудрэц, ігрэц, круглец, трэц, а ў усіх іншых склонах адз. й мн. ліку ёсьцека хормы з ры-, -лі-: мудрыца, мудрыцоў і г. д., кругліца і г. д. Таксама мудрок, Пятрок, сяброк, шваґрок, але мудрыка, Пятрыка, сябрыка, мудрыку і г. д.

Пад чужым уплывам у некаторых мясцовасьцях адно-другое з таковых словаў можа й ня маць хормы з -ры-, -лы-, -лі-, -ві-. Прыкладам, ля Крэва Ашмянскага пав. кажуць „сьляза”, але чы-

стай і агульна-беларускай хормаю ё „сьліза". Гэтая-ж хорма, зн. „сьліза", ё, між іншага, і ў слоўніку Шатэрнікавым.

2. Польскім словам на -ек — Яцэк, Янэк, Міхалэк, Марэк, маршалэк і г. д. — у каторых **э** перад **к** у залежных склонах і ў усім множным ліку выпадае (Яцка і г. д.), адказуюць беларускія словы на -ка: Яцка, Янка, Іванка, Міхалка, Марка, маршалка і г. д. У старой мове беларускай таксама ёсьцека гэтыя хормы ўлучна з часта сустраканай хормаю „маршалко" (з -о, бо тады быў правапіс этымолёґічны, і аканьне на пісьме не адзначалі).

3. Калі на канцу слова па **р, л** ё вусьняны сугук (м, п, ф), дык у мове беларускай ён адпадае. Гэтак маем **жандар, Палікар, Адоль** заміж „жандарм", „Палікарп", „Адольф". Ё таксама **тор** заміж „торф" (між іншага, запісана ў Гародзьках Валожынскага павету). Але бывае, што ў некаторых такіх словах вусьняны сугук можа не адпасьці і тады просьле яго дадаецца **а.** Гэтак маем агульна-беларускую хорму **Карпа,** а ў некаторых мясцовасьцях кажацца таксама „Адольфа" заміж „Адоль".

4. Калі ў іншых мовах спакменьнікі маюць на канцу **-р** альбо **-ер, -л** альбо -ел, у вабодвых прыпадках із папярэднім сугукам, дык у мове беларускай таковыя словы маюць хорму на -ра, -ла: Аляксандра ( або Ляксандра), бурмістра, зубра, Лаўра, літра (гэкто-літра і пад.), маґістра, мэтра (і цэнтымэтра, мілімэтра, кілёметра), міністра, Пётра, сябра, Сыльвэстра, шваґра, Паўла, Шаўла. Гэтак у цяперашняй і ў старабеларускай мове, дзе, між іншага, часта знаходзім хорму **бурмістра.** У васобных мясцовасьцях із розных прычынаў могуць лучацца некаторыя адхіны ад гэтае асаблівасьці. Гэтак, таковыя нядаўна прышлыя да нас чужыя словы, як „міністра", „мэтра", літра", могуць пад чужым уплывам вымавіць бяз -а на канцу (міністр, міністар), але, не зважаючы на гэта, трэба ўжываць іх із **а** на канцу, бо гэта агульная асаблівасьць нашае мовы.

5. У мове беларускай бывае часта распадабненьне аднолькавых сугукаў, стаячых у розных складох слова, пры гэтым або адзін із аднолькавых сугукаў замяняецца іншым, або выпадае. Сюды належаць, між іншага, гэткія спакменьнікі: калідор, ляндар, лімар, патрэт, дастамэнт, Кастанцін, тарпатына.

Працілежнай распадабненьню ё зьява ўпадабненьня, калі пад уплывам аднаго сугуку зьяўляецца другі такі самы сугук у іншым складзе. Гэтак маем **прашпарт, пробаршч, ройстра, шаша.**

6. **Сьмяюся, сьміяцца.** У цяперашнім часе гэты дзеяслоў мае **я** па **м,** зн. ё: сьмяюся, сьмяешся, сьмяецца, сьмяёмся, сьміяцеся, сьмяюцца; але ў неазначаньніку і ў мінулым часе ё **і** па **м:** Ня можна сьміяцца із старых. Ён сьміяўся. Заўсёды ё **усьміхацца** (зь -мі-). Гэтакія хормы былі здаўна і ё ў нашай мове цяперака.

Зьявы, паданыя гэтта ў шасьцёх бодках, ё характарыстычнымі рысамі нашае мовы і дзеля таго гутарачы або пішучы іх канечне трэба ўжываць.

**Пярэчаньне не-ня** ня толькі ў мове беларускай, але ў усіх славянскіх, павінна было-б пісацца разам ізь дзеясловам, як гэта й робяць у мове чэскай, значыцца, мела-б пісацца, прыкладам „няведаю", „нехачу", а не „ня ведаю, не хачу", як пішам цяпер. Адылі Зборка толькі гэта сьцьвярдзіла, але не пастанавіла пісаць разам.

Зборка прыняла наступныя словы:

**дабародны** — рас. благородный, пол. шляхэтны. Слова гэтае ўжывалася ў старабеларускай мове, прыкладам у лісьце Палачан да Рыжан 1468 г. кажацца: „Дабародныі й пачэсьлівыі нашы мілыі суседзі". **Дабароднасьць** — благородство.

**дабраславіць,** — ўлю — благословить. Дзеля таго, што царкоўнаславянскае „благий" прыняло ў нашай мове значаньне адваротнае, ад'емнае, дык із ц.-сл. „благаславіць" паўсталі ў нас хормы — багаславіць, блаславіць і баславіць. „Багаславіць" ані ня годзіцца, бо ня Бога славім, але выказуем добрыя словы, зычэньні. Лепшыя ўжо хормы „блаславіць" а „баславіць", але найлепшае свае слова „дабраславіць", што ўжывалася даўней у нашай мове; знаходзім яго ў памятках нашае мовы.

**засталы** — рас. остальной. Як ад „астацца" (ад каго) ё „асталы" — рас. отсталый, так ад „застацца" — засталы.

**засьпець,** -ею — застать. Неаднойчы гэтае вельмі пашыранае слова было прыводжана. Зборка ўважае патрэбным яго прыпомнець.

**зьверх,** -у — поверхность, пол. повержхня. **зьверхні,** — поверхностный, пол. повержховны, **зьверхне** — поверхностно, повержховне. „Зьверх" ужываецца ўв „Алькітабе".

**натоўп,** -у — рас. толпа, п. тлум. Слова народнае, запісанае, між іншага, у Каралішчавічах Ігумен. пав. (14 км. ад Менску).

**позірк,** -у — беглый, мимолётный взгляд. Каралішчавічы. А звычайны „взгляд" — пагляд.

**памост** — падлога, рас. пол. Слова „памост" пашыранае на вяліз-

най прасторы, нат у такіх мясцох, дзе слова „падлога” ня знаюць. „Памост” ё слова беларускае, а „падлога” — полёнізм. Відаць гэта з таго, што й там (пр. ув Арлянятах Аш. пав.), дзе на памост у хаце кажуць „падлога”, памост у сьвірне задзержыў яшчэ свой стары назоў, зн. „памост”. Апрача таго, у некаторых мясцовасьцях слова „падлога” вымаўляюць з ґ (а ня г), а ў мясцовым склоне перад канчаткам ё **дз-** на падлодза, што ясна паказуе на яго польшчыну. У гэтым-жа значаньню ё чыста беларускім словам „мост”, ведамае з пав. Ігуменскага а Імсьціслаўскага. Ужывае яго й М. Гарэцкі. Зн., „мост” мае два значаньні — 1) рас. „мост” і 2) рас. „пол”.

**пятра,** -ы. Як паказаў Валадзімер Дубоўка ў „Узвышшу” (нр. 5. з 1929 г., б. 105), пятраю завуцца вышкі ў васеці, на якіх сушаць снапы, а ў ганчароў — паліцы на якіх сушаць вырабы з гліны. Ад гэтага значаньня слова „пятра” ўзьніклі дзеясловы „пятрэць”, „сьпятрэць”, „выпятраць” — вельмі сохці, чыста ссохці, чыста высахці. Дзеля менаваных значаньняў слова „пятра”, яго сусім добра можна было-б яшчэ ўжываць у значаньню рас. „ярус” і „этаж”. Зборка аднагалосна пастанавіла ўжываць слова „пятра” таксама ў значаньню рас. „ярус”. А што да ўжываньня і ў значаньню „этаж”, дык пагляды на Зборцы падзяліліся, часьць была за тое, каб у гэтым значаньню і далей ужываць перанятае з украінскае мовы „паверх”, штучнае й там. Было зацемлена пры гэтым, што ў значаньню „этаж” ё яшчэ слова **навалак** (націск на на-), каторае падаець М. Гарэцкі ў сваім блр.-маск. слоўніку 1921 г.

**сіляць,** -яю (ад „сіла”, націск на **ля**) — черпать. Мокрае Клім. пав.; ПНЗ. *) Ты вялікія кавалкі сіляеш, а на другіх не ўважаеш. Нсл. **засіліць** — зачерпнуть. Мокрае. Засілю я з крыніцы халоднай вадзіцы. Сяднёў. Засіліў поўную ложку клёцак Нсл. **высіліць** — вычерпать, исчерпать. Мокрае. У студні ўсю ваду высілілі. Тм. Можна сказаць „Пытаньне высілена”.

**сіляць,** -яю (ад **сіло,** націск на -ля-) — ловить. Нсл. 184 і 579; Мокрае; Гародзькі Вал. Сіляць птушкі. Мокрае. Сіляць рыбу вудою. Нсл. Сядзіць вудаль на ляду, падпер кіям бараду. Сіля-

*) Прыпамінаем, што скарачэньні трэба глядзець у варт. Я. Станкевіча „Маленькі маскоўска-беларускі слоўнічак фразэолёґічны” („Веда”, 1952, б. 3 і асобнай кніжыцаю).

вачку сіляе, на вячэру зьбірае. Зь песьні. Нсл. 76. — 2) закидывать, набрасывать петлю, надевать что-либо посредством петли. Гл. Нсл. 184, вешать (за шею на виселице). Хто віно п'ець, душу сваю сіляе. Аль кітаб. — 3) нанизывать на нитку. Гсл. Ск. **засіліць** — 1) поймать (удою и под. — Я. С.). Нсл. 184. Засіліў вудою вялікую рыбіну. Тм. — 2) набросить петлю, надеть что либо посредством петли Нсл. 184. Засіліў каня. Тм. Засіліць торбу на шыю. Тм. — 3) повесить (за шею). — 4) зацепить Гсл. **засіліцца,** зв. — 1) повеситься. Навасёлкі Сян. (Ксл.). Ён нешта ўзімку хацеў засіліцца. Тм. Думаў чамусьці аб тым, на якой яблынцы ляпей было-б засіліцца. ЗСД. Ажаніўся, як засіліўся. Нсл. 184. — 2) зацепиться. Гсл.; Чарнагосьці Беш. (Ксл.) Засіліўся калом за плот. Тм. **усіліцца** — попасть в сило. Гародзькі Вал. Птушка ўсілілася. Тм.**).

**стоць** — перпендикулярно. Слова шырака ведамнае. **Стоцьны** — перпендикулярны. **стоцьніца** — перпендикуляр. Спусьціць, узьняць стоцьніцу. **стацьцявы** (націск на -вы-) — вертикальный, отвесный. Таксама слова ведамнае, прыкладам, на таку ё стацьцявое дзерва (Віл. п.), што начай завецца „саха".

**сумляваацца,** -аюся — сомневаться. Віл. п. **сумлеў, -ву, сумлевак,** -ўку — сомнение. Віл. п. **бяссумлеву** і **бяссумлеўку** — бессомнения, несомненно. Віл. **сумлеўны**-сомнительный. А ў слоўніку Насовічавым маем на бач. 622 **сум,** -у — сомнение. Рабі бяз усякага суму. **сумны** — сомнительный. Сумнае дзела! Твае словы сумныя. **сумна** — сомнительно. **сумляцца** — сомневаться. Ск. **суміцца** — усомниться. Ня сумляйся ні ў чым; чаго ты суміўся? „Сумляцца" ў гэтым-жа значаньню падаець і Ч. Пяткевіч з Рэчыцкага павету. Зацемім, што „сумніў" і „сумліў" (з **і**) — грубыя ўкраінізмы, бо, як ведама, ѣ у ўкраінскай мове перайшло ў **і,** а ў беларускай у **е** альбо засталося дыфтонґам.

Слова „многі" ў беларускай мове шчэзла, застаючыся адно, здаецца, у вагранічаных мясцовасьцях, як провінцыяльны архаізм. Заміж „многае" кажацца **шмат што, шмат чаго** і г. д.: Шмат што там было. Ня было там шмат чаго. Шмат чым кідалі адзін на аднаго. Заміж „многія" аб рэчах і абстрактных спакмянёх кажацца **шмат**

---

**) Абодва словы „сіляць" і аднакарэнныя зь імі выпісаныя з рукапісу слоўніка Я. Станкевіча.

**якія, шмат якіх** і г. д.: Шмат якія ляжалі кнігі на паліцах. Ня было тамака шмат якіх кнігаў. Яны прышлі із шмат якімі арґумэнтамі. Заміж „многія“ аб людзёх, калі спакменьнік не даданы, кажацца **шмат хто, шмат каго** і г. д.: Шмат хто быў тутака. Шмат хто ня памятаваў пра іхнае быцьцё. Шмат хто зь Беларусаў быў высланы. Шмат каму гэтага не ставала. Але калі спакменьнік даданы, дык заміж „многія“ кажацца б людзёх **шмат якія:** Шмат якія дзяўчаты былі там. Шмат якім дзяцюком хацелася йсьці да войска.

**казань.** Заміж рас. „проповедь (речь)“, пол. „kazanie“ ё беларускае слова „казань“ (націск на ка-). Запісанае, між іншага, у паветах Ваўкавыскім, Вялейскім а Менскім. Заўсёды ўжываецца в „Аль кітабе“. Ужывае яго таксама поэта Чарот.

**дзяньгуб,** ж. **дзяньгубка** — лентяй, -ка, тратящий, -ая по пусту время. Нсл. 125, пол. пружняк, пружнячка. Мне дзяньгуба ня трэба, а работніка. Нсл.

**дзяньгубіць** (націск на -у-), -блю, -біш (губіць дзень) — терять напрасно время. Нсл. пол. пружноваць. Ня робіш, а дзяньгубіш. Нсл.

**дзяньгубны** — соединенный с потерею времени, бесполезный. Нсл. Дзяньгубная работа. Нсл.

**дзяньгубства** — трата времени, пустое бесполезное занятие. Нсл. Пол. пружняцтво. Не работа, а адно дзяньгубства. Нсл. Дзяньгубствам займаешся. Тм.

**падзямельле, падзямельны, падземны.** Белар. слова „пол“, „палок“ знача тое, што рас. „полати“, гэта прыладжаньне спаць заміж ложка. Паміж блр. „палом“ а „памостам“ (падлогаю) ё пустое адкрытае месца ў хаце, у якім не схаваешся. Дзеля таго патайная палітычная работа, перасьледаваная ўладаю, ня можа пабеларуску быць званая „падпольлям“, „падпольнай работаю“, а мусіць быць званая „падзямельле“, „падзямельнай“ або „падземнай“ работаю.

## ПЕРАГЛЯДАЮЧЫ ЭТНОҐРАФІЧНЫЯ ЗБОРНІКІ.

(Працяг)

9. **сталяны** (націск на канцы) — прыметнік ад „сталь“, рас. „стальной“ („сталяную пушку“, б. 2).

10. **задтуль** (Гомель, б. 3) і **патуль** (б. 8) — адменьнікі прыслоўяў

„адтуль, стуль“ і „датуль“ зь яшчэ большай канкрэтнасьцяй у значаньні.

11. „сам.. сабе **прохвату** ня знойдзеш“ (б. 9) — цікавы сваёй вобразнай экспрэсыйнасьцяй выраз („прохвату“ — тое-ж, што „выхаду, выйсьця“, але дынамічней, экспрэсыйней і вобразьней).
12. **„Чым-жа** цябе **завуць?“** ( б. 37, у вадказ даецца імя). Звычайна кажуць: „як-жа завешся?“
13. **растрэль** — „растрэл“ („да растрэлі“, б. 145) — можа, жаноцкі род тут і з большай рацыяй (як і ў „роскідзь“, „розьверць“, „роспалаць“ і пад.).
14. **прытуга** (Навазыбк., б. 170) — рас. „стесненное обстоятельство“.
15. **выбіць** — рас. „избить“: „выбіў жонку“ (б. б. 185, 187).
16. **асудзіць** — рас. „решить“ („асудзілі“ — Менск, б. 204); пэўна-ж, рас. „осудить“ — у нас „засудзіць“.
17. **чорнае** — тое-ж, што „чэрня“, рас. „чернила“, пол. „atrament“ („каламарку з чорным“, б. 208).
18. **аставацца** — рас. „отставать“: „дурань не аставаўся ад іх“ (Слонім, б. 236).
19. **страт** — у васноўным тое-ж, што і „страта“, але з адценьням большае агульнасьці ў значаньні, падобна як у рас. „урон“ (а не „потеря“, „утрата“ — наша „страта“): „Страту ня было“ 248).
....
20. **воступа** — „увайшлі ў воступу — такую вялікую пушчу, што толькі неба й зямля відно“ (Пружан., б. 250). Хіба нешта да „джунґляў“, хоць, пэўна-ж, без адценьня экзатычнасьці.
21. **Мацюры** (нац. на канцы) — рас. „матёрый“ („мацюры кот“, Віцеб., б. 251).
22. **падпамагаць** — рас. „пособлять“ (Навагр., б. 263).
23. **„рукі й ногі** яго сталі **не валодаць“** (Піншч., 226) — а ня „рукамі й нагамі ён стаў не валодаць“, як сказалі-б пад уплывам маскоўскае канструкцыі „не владеть руками и ногами“.
24. **уцемнечы** (Ігум., б. 278) — тое-ж, што „папоцемку“.
25. **дзьверы пекляныя** — ц. сл. „врата адовы“ (б. 659); тут-жа, у сугучнасьць — „нутраныя“, з націскам на канцы й бяз прыростка „у“.
26. Прыймя **„аб“** звычайна злучаецца з тым самым склонам, што і „пра“ (або „праз“): „расказала ёй аб сакала“ (як — „пра

сакала", б. 241), „аб лася" (б. 269). Дык ці ня больш прыроднае ў цэлым звароце „пра" („праз"), а „аб" ці не заступае яго толькі пад чужым уплывам, спачатку нат не парушаючы кіраванага склону? Дарэчы падобнае ўжываньне „аб" засвоіў (хіба-ж, чытаючы Шэйнавы Запісы) у сваёй паэзіі і Максім Багдановіч.

### Із запісаў у Раманова (вып. 8)

1. **Пята** — рас. „основание", **галава** — рас. „вершина" — ужываюцца пры абазначэньні адпаведных частак у вульлі (б. 50) й напэўна будуць лепшымі ґэамэтрычнымі тэрмінамі за сьлепа скапіяваныя з маскоўскіх „аснову" й „вяршыну" (пята трыкутніка, галава трыкутніка й пад).
2. **капаніца** — рас. „мотыка", **капанічыць** — рас. „мотычить" (б. 57).
3. **пераступны** (націск на канцы) **год** — рас. „високосный", а лішні дзень гэтага году — 29 лютага — **прыбытовы дзень** (б. 67).
4. **даваць малітву** — рас. „творить молитву" (сьвятар „дае малітву", б. 69).
5. **дарлівы** — „шчодры на дары" („яго жана дарлівая", б. 157).
6. **вывальніць** — а ня „вызваліць", як звыклі ў нас ужываць пад чужым (польскім, украінскім) уплывам: „Мяне зь няволечкі вывальне" (Вялейшч., б. 187). Адсюль і выводныя былі-б — **вывальненьне** (а ня „вызваленьне"), **выво́льны** (а ня „вызвольны", і ня „вывальны" ці „вызвальны", бо ў прыметніках із прыросткам „вы" націск звычайна на аснове: „выгодны", „выборны", „вытворны", „выходны", „выводны", „нявымоўны", „нявыносны" й пад.), **вывольнік** (а ня „вызвольнік").
7. **тайка, таечка** — інтымны прыяцель (-ка) — агульнага роду і ўжываецца і да мужчыны ў такой самай хорме (гэтак звярачаецца Вусьця Хведарава зь Юркавічаў, Гомельск. пав., да запісваньніка Раманава, б. 206). Пра слова гэтае наагул гл. „Веду", нр. 1 (6) за студзень 1952 г., б. 19.
8. **сьценягацца** — даецца рас. пераклад: „тягаться, таскаться, шляться" („па вуліцы сьценягаецца", б. 235), але, мяркуючы э этымалёґіі (ад „сьцень") ёсьць, хіба, адценьне — „цягацца, туляцца ў сьцені, хаваючыся ў засьцененых мясьцінах"

(а мо — „туляцца, як сьцень?), адгэтуль і „таскаться, шлятьця" наагул.

9. **уходы** — манеры. Налажыў галоўку за дзеўку, за яе **ціхія ўходы,** за яе нізкія паклоны" (Ашмян. б. 247).

10. **краіна** — рас. „окраина": „сама пайду краінаю, голас пушчу далінаю", „пайшоў сьвёкар у краінку, як і выразаў дубінку" (б. 257). Ужываньне слова „краіна" ў сэнсе „край" — вынік уплыву рас. слова „страна" і (хіба, таксама не бяз гэтага ўплыву паўсталага) укр. „краіна". „Краіна" ё адзіночны спакменьнік ад „край" (як „гадзіна" ад „год", „часіна" ад „час", „рыбіна" ад „рыба", „сяніна" ад „сена") і дзеля таго можа значыць меншую за край прастору і ўжывацца ў значаньні рас. „область", „край". Гэтак ужывае слова „краіна" Аркадзь Смоліч у сваёй „Ґеоґрафіі Беларусі".

11. **маня** (націск на пачатку) — тое-ж, што і „здань", але, хіба, мяркуючы з этымалёґіі („маніць") — з адценьням зманнасьці (б. 285).

12. **нараджэнец** — „нованароджаны" (б. 349).

13. **суборны** — рас. „соборный": „з цэркаўкі, з суборненькае" (Аршан., б. 349). Дык хіба-ж і рас. „собор" — нас быў-бы „субор". Да рэчы, „су" здараецца ня толькі, як прыростак, але й як прыймя, у тым самым значаньні, што і „з" („із"): „суполя" (Амсьцісл., б. 513; ёсьць і ў Шэйна — „каток су пеўнічкам" (Ваўкав., б. 1).

## У Фэдароўскага (Том I)

лучыў цікавы дзеяслоў **уваслаць** — „у дзіця чарта ўваслала" (б. 105, адкуль і чалавек із такім уваcланым у яго „чартом" — „злым духам" завецца „увасланец", б. 104). „Злы дух" таксама можа й сам **„ухапіцца"** ў чалавека, не канечне мусіць быць „увасланы" некім (б. 104). „Ухапіцца" — хіба рас. „вселиться", „уваслаць" — „вселить", „увасланец" — хіба „одержимый".

**А.**

## ВЫЯСЬНЕНЬНЕ МАЙМУ КРЫТЫКУ

На маю зацемку „Жмудзь" ці „Жамойць"? на бач. 87 „Веды" 1952 г. зьявілася крытыка спад. С. Б. ў „Запісах" (нр. 1, 1953 г., б. 52). С. Б. піша: „Падобна да таго, як словы **калоць, пароць** у польскай мове маюць форму **клуць, пруць,** гэтак і першы склад слова „Жамойць" быў патрактаваны, як нашае паўнагалосьсе, ды была праведзеная ў ім рэдукцыя (выпушчэньне **а** па **ж**)". Просьле такога арґумэнту С. Б. у канцу станаўко заяўляе „Ужываньне-ж польскіх формаў **Жмудзь** ды **Жмудзкі,** гэта барбарызм гэткай-жа ступені, як нехта ў беларускай мове пачаў-бы заводзіць словы **клуць** ды **пруць** на месца нашых **калоць, пароць.**"

Вось-жа слова „Жамойць" так не магло быць патрахтавана, бо паўнагалосьсе ёсьць адно тады, калі ў словах беларускіх паміж двух этымолёґічных **о** або **е** стаіць **р** або **л** і адначасна такія хормы адказуюць праславянскім хормам із -ор-, -ер-, -ол-, -ел- паміж сугукаў. Адно ў такіх прыпадках менаваным беларускім і праславянскім хормам адказуюць польскія з -ро-, -рже-, -ло-, -ле- паміж сугукаў (крова, држэво, ґлова, млеко). („У" заміж „о" ў ,клуць", „пруць" ё зь іншае прычыны, з тае-ж, чаму і пол. „вул" ё заміж „вол"). У іншых словах такіх польскіх хормаў нямашака, прыкладам, „работа" і папольску „робота". Паўнагалосьсе належа да найэлемэнтарнейшых зьяваў у славянскай фонэтыцці. У школах, дзе добра пастаўлена навука мовы, гэтую зьяву ўжо знаюць вучаньнікі апошняе клясы ґімназіі. Выступаць із такой „навукаю" ў часапісе „Беларускага Інстытуту Навукі (!) й Мастацтва" гэта чыстая компромітацыя не аднаго аўтара. На менаваную зацемку ня трэ было-б зварочаваць увагі, каб ня тое, што ў нас людзі нярэдка займаюцца тым, чаго яны ня ўмеюць рабіць — лекары бываюць літаратурнымі крытыкамі й моваведамі, а пляценьнікі каробкаў із саломы бываюць гісторыкамі й сябрамі навуковага інстытуту.

**Я. С.**

## ХРОНІКА

РЭФЭРАТЫ У НАВУКОВЫМ Т-ВЕ СКАРЫНЫ ў вапошнім часе былі гэткія:

21 лютага 1953, Сп. Ант. Адамовіч маў рэфэрат на тэму: „Прырода ў беларускай літаратуры".

— 7 сакавіка 1953, Др. Я. Станкевіч дзяліўся із слухачамі сваймі „Успамінамі з маленства". Успаміны датыкаліся справаў нацыянальнага й грамадзкога значаньня.

— 21 сакавіка 1953, Сп. Ант. Адамовіч прачытаў рэфэрат на тэму: „Мастацкі пэйзаж у беларускай літаратуры".

— 18 красавіка сёл., Сп. Ант. Адамовіч маў рэфэрат на тэму: „Творства Валадзімера Жылкі (да 20 угодкаў сьмерці паэты)".

— 16 мая сёл., маў рэфэрат Др. Язэп Ліхтэн на тэму: „Палажэньне Жыдоў за зялезнай завесаю (на фоне нацыянальных і рэлігійных дачыненьняў у СССР)".

АКАДЭМІЯ ПРЫСЬВЯЧАНАЯ 36 УГОДКАМ СЬМЕРЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА была зладжаная 30 мая сёл. Задзіночаньням Беларускае Моладзежы ў Ню Ёрку.

Спад. Антон Адамовіч, старшыня Навуковага Т-ва Скарыны, прачытаў рэфэрат праз жыцьцё й творства М. Багдановіча, рэфэрат, як звычайна, грунтоўны й цікавы. Асабліва некаторыя мамэнты рэфэрату былі важныя. Да іх найперш належа тое, што Багдановіч, паходзячы з абруселае радзімы ды змалку жывучы ў варожай Маскоўшчыне, вось-жа ў ватмосфэры вельмі няпрыяючай, патрапіў вывальніцца з таўстога прыкарэлага пылу маны і задзіночыцца із спрадвечным духам свайго народу. Было паказана значаньне Багдановіча ў развою беларускае літаратуры. Рэфэрэнт зацеміў таксама, якія з паэтаў ішлі прасьцінкам Багдановічавым — з ранейшых галоўна Валадзімер Жылка, а цяпер — у поўнай меры Салавей. Жаль, што гэты, як даведаліся слухачы, у вельмі цяжкім матар'яльным палажэньню. Да заганаў рэфэрэнта належа тое, што ён мусіць сказаць усё „важнае", што ведае й думае на рэгляданую тэму, а не адно тое, што трэба ў даную часіну. Сюды мусім залічыць „мэдычнае дасьледаваньне" (сухоты — талент).

У мастацкай часьці акадэміі хор моладзежы, зычліва а рупатліва прыгатаваны композытарам Анатолям Валюшкам, прапяяў сьцяг песьняў з твораў Багдановічавых. Каб хор быў мацнейшы, трэба каб і сталыя пяюны й пяюльлі ў ім пялі. Адлі былі дэклямацыі вершаў паэтавых і дзяціная сцэнка з яго-ж твору „Мушка й камарык — насаты тварык". Гэтая й падобныя сцэнкі ня толькі прыемныя глядзеньнікам, але й карысныя ўчасьнікам-дзяцём, бо яны разьвіваюцца і з маленства ўцягуюцца ў культурную работу.

Належыцца ўдзячнасьць усім дзейным учасьнікам акадэміі, асабліва рэфэрэнту й дырыґенту, гэта тым болей, што ў нас даводзіцца рабіць усё тым самым людзём, а іншыя застаюцца бязьдзейнымі.

ПАХОДЖАНЬНЕ ЖЫХАРСТВА РАСІЙСКАЕ МОВЫ НА ЎСХОДЗЕ ЭЎРОПЫ было тэмаю рэфэрату проф. Я. Станкевіча, каторы ён меў 13 чырвіня ў Крывіцкім Навуковым Т-ве Пр. Скарыны ў Ню Ёрку. Жыхарства, гаворачае парасійску, займае тэрыторыю на поўнач а ўсход ад этноґрафічнае тэрыторыі беларускае й украінскае. Яно дзеліцца на 4 гэткія часьці:

1) **Вяцічы,** у расійскай літаратуры іх штучна завуць Паўднёварасійцамі. Станкевіч студыяваў жыхарства спрадвечнае тэрыторыі вяціцкае, зн., губэрняў Разанскае, Тульскае, Калускае, усходняе часьці Арлоўскае і меншых часьцяў іншых. Жыхарства гэтае тэрыторыі — беларускага паходжаньня. Пра гэта сьветча гісто-

рыя, мова й этнографія. Старыя важныя асаблівасьці мовы беларускае і гаворкаў вяцiцкіх — тыя самыя. Ноўшыя рысы мовы Вяцічаў, супольна перажытыя з усёй моваю беларускай, сьветчаць, што яшчэ ў XVII стг. Вяцічы гаварылі пабеларуску. Пасьлей яны былі зрусыфікаваныя.

Рэфэрэнт зацеміў пра патрэбу студыяў вяціцкага фольклёру і іхнае псыхікі. Лірычны тып на расійскай моўнай тэрыторыі, ці ня будзе тыпам вяціцкім? — пытаецца ён. З гэтага гледзішча таксама карысна дасьледаваць творства расійскіх пісьменьнікаў а поэтаў вяціцкага паходжаньня і выявіць, чым яно розьніцца ад твораў Суздалца-Маскоўцаў.

2) **Донскія а зь іх Церскія казакі** паходжаньня вяціцка-северскага. Пра гэта сьветча мноства захаваных беларускіх сьлядоў у іхнай мове, а нат часьць асаблівасьцяў у поўнай сіле. Казацкія дзеячы добра кажуць, што вольны казацкі народ ня можа паходзіць ад маскоўскіх халапоў. І ён ад іх не паходзе, але паходзе ад даўнейшых Вяцічаў, каторыя, пакуль іх не паняволіла Масква, спачатку палітычна (1520), а пасьлей культурна й душэўна, былі волялюбным, дзейным і адважным народам.

3) **Патомкі Славен Вялікага Ноўгараду** ё трэйцім жыхарствам нерасійскага паходжаньня.

4) **Запраўднымі Расійцамі ё патомкі Суздалца-Маскоўцаў.** Яны паўсталі пасьлей за іншыя народы славянскіх моваў, бо ажно ў XII стг., ад асыміляцы ноўгарадзкімі колёністымі розных фінскіх плямёнаў, дзеля таго ў іх адна мова з Ноўгарадцамі, але псыхіка ў іх спрадвеку розная, а значыцца, і народы гэта апрычоныя.

У дыскусі проф. М. Чубаты падчыркнуў, што запраўды даўней на ўсходзе Эўропы былі ня тры, а чатыры народы із славянскімі мовамі — Украінцы, Беларусы, Ноўгарадцы а Суздалцы або Маскоўцы. Проф. П. Кавалёў даў сьцяг пераконуючых аргумэнтаў пра карысьць студыяў на разгляданую тэму. Сп. П. Глагольскі падзяліўся сваймі доймамі з быцьця, разам із Разанцамі, у концэнтрацыйным табару бальшавіцкім. „Яны гаварылі пабеларуску" — казаў ён. Ад падобных дазнаньняў у сп. Глагольскага стварылася даймо, што „Беларусы ўсюдых!" Прымалі яшчэ ўчасьце ў дыскусі сп. Ант. Адамовіч а інж. В. Трэмбіцкі.

**Сл.**

ДА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ. Справаю першае вагі ёсьцека, каб новае пакаленьне, прынамся нацыянальна сьведамае беларускае эміграцыі, было захавана для свайго народу. Гэта-ж можа стацца адно тады, калі беларускія дзеці будуць хадзіць, па сыботах а нядзелях, у сваю беларускую школу, дапаўняючую да ўрадовае. У сваёй школе яны вучыліся-б беларусаведы. Бяз гэтага нат дзеці нацыянальна сьведамае беларускае інтэлігенцыі здэнацыяналізуюцца. А тымчасам дагэтуль няма ніводнае беларускае школы ў Задзіночаных Гаспадарствах ані ў ін-

шых краёх пасяленьня беларускае эміґрацыі. У Ню Ёрку людзі (чалавек?), стаячыя на чале агульнай арганізацыі беларускай, на якіх ляжыць першая й галоўная павіннасьць арганізаваць беларускую школу, пра гэта ня рупяцца. Дзеля таго вучыцялі й бацькі не павінны далей чакаць, але маюць узяць ініцыятыву ў свае рукі і ўжо цяпер, улетку арганізаваць школу, каб у верасьню пачаліся ў ёй заняткі. Найперш мусіць быць закладзена беларуская школа ў Ню Ёрку, дзе ё найболей вучыцялёў і дзяцей беларускае эміґрацыі.

ПРА КОМІТЭТ УШАНАВАНЬНЯ ПАМЯЦІ МІКОЛЫ РАВЕНСКАГА. Мова пра комітэт, каторага няма і дыкжэ дзеля таго, што няма. У Ню Ёрку спад. Пр. Кушаль, старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, папрасіў раз і другі раз на зборку некаторых нюёрцкіх Беларусаў дзеля арганізаваньня комітэту ўшанаваньня памяці Міколы Равенскага. Абодва разы на зборцы ня было нікога ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Тады ў нядзелю, на агульнай зборцы нюёрцкіх Беларусаў, Др. Я. Станкевіч ад імені Навуковага Т-ва Скарыны выступіў із пасуленьням, каб кажная з 4-х беларускіх арганізацыяў — Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Крывіцкае Навуковае Т-ва Пр. Скарыны, Задзіночаньне Беларускае Моладзежы і Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва — дэлегавалі сваіх прадстаўнікоў, каторыя й стварылі-б такі комітэт, папаўняючы яго адлі прадстаўнікамі іншых арганізацыяў беларускіх. На гэта адразу згадзіліся Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне і Задзіночаньне Беларускае Моладзежы, але прадстаўнікі менаванага Інстытуту, каторых было чатырох сяброў прэзыдыюму (на ўсіх пяцёх) нічога не адказалі, дарма што зараз па агульнай зборцы малі там-жа сваё пасядзеньне. Не адказаў менаваны Інстытут і дагэтуль. Зь менаванага відаць, што кіраўнікі Інстытуту або сусім ня хочуць такога комітэту, або ня хочуць каб ён маў агульна-беларускі характар.

У сувязі з вышменаваным трэба яшчэ мацъ наўвеце, што па сьв. памяці Міколу Равенскім засталася навуковая спадчына. Яґоныя працы апошняга году былі менаваныя сёл. ў нр. 1-2 „Веды" на бач. 30. Але пэўне ё й іншыя. Хто заапякуецца гэтай спадчынаю і хто будзе адказаваць за яе адпаведнае выкарыстаньне для беларускае справы?

## БІБЛІОТЭЧКА „ВЕДЫ"

Вышлі гэткія кніжкі, выданыя Рэдакцыяй „Веды":

ДР. Я. СТАНКЕВІЧ: Этноґрафічныя й гісторычныя тэрыторыі й граніцы Беларусі, бач. 24. Да кніжыцы дадана этноґрафічная й гісторычная мапа Беларусі, цана ........ 50 цэнтаў

DR. JOHN STANKIEVICH: Etnographical and Historical Territories and Boundaries of Whiteruthenia, бач. 16. Да кніжыцы дадана этноґрафічная й гісторычная мапа Беларусі ў ванґельскай мове. Гэта праца паан-

ґельску ё крыху скарочаным выданьням першае працы. Кніжыца й мапа вельмі годзяцца да пашырэньня ведамкаў пра Беларусь паміж чужнікоў. Цана ........................................ 40 цэнтаў.

ДР. Я. СТАНКЕВІЧ, ПРЫ ЎЧАСЬЦЮ АНТ. АДАМОВІЧА: Маленькі маскоўска-беларускі слоўнічак фразэолёґічны і прыказкаў, цана ........... 40 цэнтаў.

ЯГО-Ж: Некаторыя праўніцкія тэрміны беларускія, бач. 84. У кніжцы, апрача разгледжаных каля 900 беларускіх праўніцкіх тэрмінаў, ё на 6-х бачынах сьпісаньне расійскіх тэрмінаў, каторымі перакладзеныя тэрміны беларускія. Цана ........................................ 95 цэнтаў.

Выпісаваць кніжкі трэба з Крывіцкага Навуковага Т-ва Пр. Скарыны. Кніжкі перасылающца поштаю на кошт Т-ва.

## АДКАЗЫ ЧЫТАРОМ

**Спад. Барыс Палятай** з Філядэльфіі піша нам: „Апрача Вас, **які навучоны прызнаець, што Вялікае Княства Літоўскае было гаспадарствам беларускім?**

**Адказ Рэдакцыі.** Пяцёх такіх навучоных менаваныя на 69 бач. „Веды" 1951 г. (сшыток за красавік-чырвень 1951 г.). Гэтта яшчэ аднаго назавём. Ёсьць ім Расіец Мікола Дурново, каторы ў сваёй працы „Диалектологическая карта Калужской губ. (Сборник отделения рус. яз. и слов. Академии Наук, т. 76, Пецярбург 1904), на бач. 24 піша: (Рака) „Вугра заставалася граніцаю (паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскім)... да 1503 г. Сьляды даволі даўгога быцьця завугорскае (значыцца, паўднявое) часьці Калускае губэрні ў складзе Літоўскага гаспадарства захаваліся дагэтуль. Дагэтуль яшчэ жыхары левага берагу Вугры завуць завугорскіх Літвою. У заходняй часьці Калускае губ., што яшчэ пазьней была прылучана да Масквы, **ё цямкое цягненьне да Беларусі,** слабеючае адно цяпер із правядзеньням (Маскоўска-) Бранскае чыгункі. У гаворках, чым захадней, тым болей беларускіх рысаў і меней асаблівасьцяў, уласьцівых маскоўскаму нарэччу; гэта выясьняецца ўзноў такі тым, што паўднёва-заходняя часьць Калускае губ. **даўгі час уходзіла ў склад беларускага Літоўскага, а не вялікарускага** Маскоўскага гаспадарства". (Падчыркненьне нашае — Рэдакцыя). Значыцца, Літоўскае гаспадарства было гаспадарствам народу, званага цяпер найчасьцей беларускім, а гаспадарства Маскоўскае было гаспадарствам народу, званага цяпер расійскім або вялікарускім, пры гэтым назовы „літоўскі" і „маскоўскі" старшыя й праўдзівыя, а „беларускі" й ‚вялікарускі" новыя й штучныя. Уперад наш народ зваўся Ліцьвінамі, а яшчэ раней — Крывічамі. Наагул, вялікая бальшыня навучоных уважае Вялікае Княства Літоўскае за гаспадарства беларускае, а меншыня ня мае даводаў супроць гэтага.

---

**Рэдаґуе Рэдакцыйная Колеґія.**